Інтэрв'ю з нагоды

# У педуніверсітэце — новы факультэт

*Летась пачаў свой шлях новы факультэт БДПУ імя М.Танка — факультэт павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў сістэмы адукацыі. І хаця час існавання новага факультэта непрацяглы, зроблена ім нямала. Пасля пасяджэння першага савета факультэта я сустрэўся з дэканам — кандыдатам педагагічных навук, дацэнтам Аляксандрам Іванавічам Андаралам і пагутарыў з ім.*

**— Аляксандр Іванавіч, факультэт вельмі аператыўна распачаў сваю дзейнасць. І толькі Вам вядома, якая работа была праведзена па падрыхтоўцы нарматыўна-кадравай дакументацыі, пра асабісты ўклад работнікаў у агульную справу. Што б Вы хацелі адзначыць?**

— Перш-наперш я хачу падзякаваць метадыстам, выкладчыкам, дапаможнаму персаналу, якія ў даволі складаных умовах згуртаваліся і змаглі дастойна правесці прыёмную кампанію, якасна арганізавалі вучэбны працэс на завочным і дзённым аддзяленнях, паспяхова правялі выпускныя, дзяржаўныя экзамены са слухачамі па спецыяльнасці "Дэфекталогія".

Значная работа калектывам факультэта была праведзена па падрыхтоўцы вучэбнай дакументацыі (вучэбных праграм, рабочых праграм, тэматычных планаў, праграм педагагічных практык і іншых дакументаў).

У сувязі з правядзеннем Рэспубліканскага каардынацыйнага савета па пытаннях павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў, які адбыўся ў Гомелі, на факультэце працавала камісія. Заўважу, што складалася яна з вопытных супрацоўнікаў Акадэміі паслядыпломнай адукацыі. Мне прыемна паведаміць, што члены камісіі не зрабілі нам істотных заўваг.

Было б несправядліва, калі б я сёння не сказаў слоў удзячнасці рэктарату універсітэта, і асабіста рэктару Леаніду Ніканоравічу Ціханаву, за дапамогу ў складаны час станаўлення факультэта. Без вучэбных і дапаможных плошчаў, без аргтэхнікі мы не змаглі б на належным узроўні арганізаваць вучэбны працэс, падрыхтаваць неабходную вучэбную дакументацыю.

**— Факультэт працуе дзевяты месяц. Ёсць напрацоўкі, здабыткі. Раскажыце, калі ласка, больш падрабязна аб планах, перспектывах развіцця. Па якіх спецыяльнасцях Вы пачнеце перападрыхтоўку кадраў?**

— Першае, на чым хацеў бы спыніцца, гэта на плане перападрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі ў 2001 годзе.

Як вядома, факультэт пачаў сваё існаванне на аснове перападрыхтоўкі спецыялістаў адукацыі па двух напрамках: дэфекталогія — з двухгадовым тэрмінам навучання і практычная псіхалогія — таксама з двухгадовым тэрмінам навучання.

Агульная колькасць слухачоў тады складала 125 чалавек. А ўжо ў кастрычніку яна склала 175 чалавек.

У сувязі з вострай патрэбай сістэмы адукацыі ў настаўніках інтэграваных класаў у новым навучальным годзе мы павялічылі план прыёму дэфектолагаў яшчэ на 25 чалавек. Акрамя гэтага, упраўленне адукацыі Мінскага аблвыканкама звярнулася ў Міністэрства адукацыі і ў рэктарат універсітэта з просьбай прыняць дадаткова яшчэ 25 чалавек.

Што да названых вышэй спецыяльнасцей, то перад намі стаяла задача да красавіка падрыхтаваць і зацвердзіць новыя вучэбныя планы, разлічаныя на 18 месяцаў навучання, з чым мы ўжо справіліся.

Думаю, усе ведаюць, што сёння ў Мінску — востры недахоп настаўнікаў замежнай мовы. У многіх школах яе выкладаюць асобы з вышэйшай педагагічнай адукацыяй, якія скончылі ў свой час школы і класы з паглыбленым вывучэннем замежнай мовы. Таму па ўзгадненні з упраўленнем адукацыі Мінскага гарвыканкама, мы з верасня павінны пачаць вочна-этапную перападрыхтоўку настаўнікаў замежнай мовы з ліку асоб, якія маюць вышэйшую педагагічную адукацыю і пэўныя веды. Такая практыка перападрыхтоўкі існуе ў Акадэміі паслядыпломнай адукацыі.

Сёння перад намі стаіць задача стварыць і зацвердзіць вучэбныя планы і іншую неабходную дакументацыю. Агульны вучэбны план павінен быць разлічаны на 1000 гадзін заняткаў, што прыкладна столькі, колькі даецца на дадатковую спецыяльнасць (замежная мова) на факультэце сацыяльнай педагогікі і практычнай псіхалогіі.

Вострая сітуацыя ў нашым горадзе і з настаўнікамі пачатковых класаў. Па даных, атрыманых з гарадскога ўпраўлення адукацыі, у школах не хапае больш 60 настаўнікаў пачатковых класаў. У сувязі з дэмаграфічнай праблемай перастала існаваць значная колькасць дашкольных устаноў. Многія былыя выхавацелі з гэтых устаноў перайшлі ці жадаюць перайсці працаваць у пачатковую школу. Аднак адпаведнай адукацыі яны не маюць, і таму не могуць якасна, на сучасным узроўні выконваць функцыі настаўніка пачатковых класаў.



Зноў жа, па ўзгадненні з гарадскім упраўленнем адукацыі, запланавана арганізаваць перападрыхтоўку настаўнікаў пачатковых класаў з ліку асоб, якія маюць вышэйшую педагагічную адукацыю. Мы запланавалі з верасня гэтага года прыняць на перападрыхтоўку групу з 25 чалавек.

**— Аляксандр Іванавіч, як вядома, стаіць вострая праблема і з павышэннем кваліфікацыі кіруючых работнікаў і спецыялістаў педагагічных каледжаў і вучылішчаў. Ці будзе ваш факультэт займацца павышэннем кваліфікацыі работнікаў гэтай катэгорыі?**

— Новым накірункам у дзейнасці нашага факультэта стане павышэнне кваліфікацыі кіруючых работнікаў і спецыялістаў педагагічных каледжаў і вучылішчаў. Ужо сёння праведзена значная работа па фарміраванні банка даных.

У адпаведнасці з планам мы павінны правесці мэтавыя курсы: дырэктараў педагагічных каледжаў і вучылішчаў "Пераемнасць сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай педагагічнай адукацыі"; старшынь цыклавых камісій па педагогіцы "Змест, формы і метады педагагічнай падрыхтоўкі настаўнікаў пачатковых класаў"; выкладчыкаў музычных дысцыплін і методыкі музычнага выхавання; выкладчыкаў педагогікі педвучылішчаў "Абнаўленне зместу педагагічнай адукацыі ва ўмовах рэформы сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай педагагічнай адукацыі"; выкладчыкаў беларускай мовы і методыкі яе выкладання; выкладчыкаў матэматыкі і методыкі яе выкладання.

**— А ці пойдзе да вас павышаць сваё прафесійнае майстэрства вышэйшая школа?**

— Мы ўжо правялі рэспубліканскі метадалагічны семінар загадчыкаў кафедраў педагогікі, псіхалогіі і прыватных методык ВНУ рэспублікі "Псіхолага-педагагічная навука на мяжы XXI стагоддзя".

З кастрычніка запланавана пачаць павышэнне кваліфікацыі выкладчыкаў педагагічных ВНУ ў галіне педагогікі і псіхалогіі вышэйшай школы. Таксама плануюцца заняткі па педагогіцы і псіхалогіі вышэйшай школы з аспірантамі непедагагічных ВНУ.

**— Якія ў вас яшчэ запланаваны накірункі?**

— Апошні запланаваны накірунак — гэта павышэнне кваліфікацыі выкладчыкаў фізічнага выхавання спецыяльных школ. Для іх арганізоўваюцца мэтавыя курсы "Адаптыўная фізкультура" і "Лячэбная фізкультура".

**— Аляксандр Іванавіч, а ці паступаюць на факультэт прапановы, канкрэтныя запыты, просьбы ад зацікаўленых арганізацый?**

— Ужо сёння нам паступаюць прапановы. Напрыклад, ад Міністэрства адукацыі — узяць на сябе павышэнне кваліфікацыі выкладчыкаў музыкі школ з музычна-эстэтычным ухілам (80 школ горада не супраць).

Некалькі дзён таму да нас звярнулася ўпраўленне дашкольнага выхавання Міністэрства адукацыі з просьбай узяць на сябе павышэнне кваліфікацыі работнікаў дашкольных устаноў па фізічным выхаванні дашкольнікаў.

**— Якія яшчэ задумкі?**

— У апошні час функцыі дырэктара школы значна змяніліся. Ён ператварыўся ў менеджэра адукацыі. Аднак на сённяшні дзень ніхто не рыхтуе ні завучаў малодшых класаў, ні завучаў старэйшых класаў, ні дырэктараў школ. Думаецца, настаў час рыхтаваць такія кадры. На практыцы ж спачатку прызначаюць, а потым пасылаюць на курсы павышэння кваліфікацыі.

**— Дзякую за размову, Аляксандр Іванавіч. Поспехаў Вам . Упэўнены, Ваш факультэт будзе запатрабаваны ў кіруючых работнікаў і спецыялістаў сістэмы адукацыі.**

**Мікола ГРУДЗІНСКІ,**
**старшы выкладчык кафедры кіравання Мінскага абласнога ІПК.**

Аб людзях харошых

# "Вас чакае заўтра нешта вельмі цікавае..."

Не кожны педагог здольны працаваць у дзіцячым доме, школе-інтэрнаце. Да дзяцей тут патрэбен асаблівы падыход: прымаць да сэрца чужых хлопчыкаў і дзяўчынак, як родных дзетак. Бо яны надоўга адарваны ад дому, а некаторыя не маюць яго наогул. І толькі выхавальніца здольна замяніць ім і маму, і тату ў адной асобе. Зашпіліць гузік паліто на прагулцы — застудзішся! Падаткнуць пад ножкі цёплую коўдру ў спальні — спі, малыш, набірайся моцы! Пачуць дапытлівае:

— Марыя Цімафееўна, а заўтра на пад'ёме вы да нас прыйдзеце?

І радасна азвацца:

— А куды ж я без вас? Абавязкова прыйду. Заправім ложкі, умыемся, паснедаем — і на ўрокі. А пасля... Не, не скажу. Гэта сакрэт. Вас чакае заўтра нешта вельмі цікавае...

— Пойдзем на прагулку ў лес? Паедзем на экскурсію? Будзем чытаць казкі? — гадаюць дзеці.

— Усё будзе заўтра. А зараз спаць... Спаць...

І малыя засынаюць у чаканні заўтрашняга цуда.

Гэтыя словы пра яе, былую выхавальніцу Бучамлянскай дапаможнай школы-інтэрната, што ў Камянецкім раёне, Марыю Цімафееўну Жук. Родам яна з-пад Бранска, але Беларусь стала для яе другой Радзімай. Тут яна праклала шлях да сірочай душы пасля заканчэння педагагічнага інстытута. А пачынала працу ў 1963 годзе ў Люцінскай школе-інтэрнаце. Да яе, як да сонейка, цягнуліся дзеці. Дзе зараз яе птахі-выхаванцы, якіх вучыла быць сціплымі і сумленнымі, даваць адпор хамству, спачуваць хвораму і памагаць беднаму, цягнуцца да кнігі, музыкі, кветак? Адны дасылаюць лісты з Урала, другія — з Брэста. А лісты пачынаюць словамі: "Дзень добры, Марыя Цімафееўна! Дзень добры, наша матулька! Я часта ўспамінаю Вас. Бо як нялёгка было б у жыцці, каб не Вашы ўрокі дабрыні, мудрасці..."

Яна гладзіць белыя лісты са светлым дожджыкам знаёмага почырку. Роўныя радочкі літар вылучаюць цяпло — яна ўспамінае, якімі яны былі, яе выхаванцы, у тым далёкім інтэрнацкім жыцці. Яна вучыла іх трымаць іголку ў руках, прышываць гузікі, цыраваць казённае адзенне, гатаваць няхітрыя стравы. Давала ўрокі этыкету: як паводзіць сябе на людзях, як ужывацца з імі. А галоўнае — быць заўжды чалавекам і ніколі не камплексаваць, што яны — дзеці дзяржавы.

Хто ведае, колькі б яшчэ працавала ў Люце, каб не праблема з жыллём. Хацелася мець свой куток. Па гэтай прычыне і пераваліся з мужам-настаўнікам у Бучамлянскую школу-інтэрнат. Больш як 30 год працавала тут. А работа гэта адрозніваецца ад работы ў звычайнай школе. Дзеці ў інтэрнаце асаблівыя, пакрыўджаныя лёсам. Праўда, няма іхняй віны ў гэтым. У кагосьці маці і бацька — алкаголікі. Ці ж магло ў іх нарадзіцца паўнацэннае дзіця? Ёсць і сіроты, якім няма куды ехаць улетку. Такія дзеці адпачываюць на канікулах у летніках. Пра гэта і многае іншае клапоціцца дырэкцыя школы-інтэрната. Тут вучацца выхаванцы сталярнічаць, шыць, працаваць на зямлі, многія набываюць будаўнічыя спецыяльнасці ў вучылішчах. Адным словам, язык не павернецца назваць іх бездапаможнымі. Хоць вучацца і ў дапаможнай школе-інтэрнаце...

Апошнія гады перад пенсіяй Марыя Цімафееўна Жук выкладала ўрокі працы. Якія кветкі яна вырошчвала з дзецьмі на клумбах! Пра гэта з захапленнем успамінаюць яны і зараз.

Аднак непрыкметна прыйшоў час ісці на адпачынак. Адны прымаюць гэтую перамену ў жыцці з радасцю, другія — са смуткам. Адбываецца своеасаблівая ломка. Яшчэ ўчора ты быў неабходны, быў у гушчыні спраў. А сёння — не трэба нікуды па ранках спяшацца — цішыня і чатыры сцяны кватэры. І абставіны склаліся так, што вакансіі выхавальніцы ў школе ў той час не было. Маўляў, адпачывай, Цімафееўна, заслужыла! Ды адпачынак гэты не радаваў. Здавалася, нешта адабралі ў яе, нечага пазбавілі. Дзяцей! Як жа без іх? Ёсць яшчэ сілы і жаданне клапаціцца аб кімсьці — ад цішыні ў кватэры можна аглухнуць! Муж на працы ў школе, сын з сям'ёй жыве ў абласным цэнтры, выкладае гісторыю ў адной з брэсцкіх школ. Засумавала Цімафееўна... І аднойчы ўспомніла пра Люту, у якой пачынала. Мо там маюць патрэбу ў выхавальніцы? І як узрадавалася, калі дырэктар школы-інтэрната Людміла Міхайлаўна Гірылюк сказала адно кароткае слова: "Прыязджайце". Так Марыя Цімафееўна з верасня мінулага года — зноў выхавальніца. Яе прыняў дружны калектыў педагогаў, душой пацягнуліся да яе дзеці. І нічога, што крыху складана дабірацца з Бучамлі ў Люту на работу. Затое, як зазначае сама жанчына: "Я бязмежна шчаслівая, што рашылася на такі подзвіг. Я зноў разам з дзецьмі, мы — неразлучныя..."

Хтосьці пасмяецца з такой фанатычнай любові. Ды толькі больш было б у нас такіх апантаных, адданых справе людзей. Не дзяржаўных урокадаўцаў, што ступілі за школьны парог і пра дзетак забылі. А такіх, хто зачапіў малых сэрцам, прыняў да сваёй душы з іх правіннасцямі і свавольствамі. І, як матуля, любоўна накіроўвае на шлях ісціны.

**Ніна ГАРАГЛЯД.**
Камянец.

Ёсць над чым падумаць

# Уцёк ад маці... у манастыр

***Гэтая сям'я не першы год лічыцца ў Маскоўскім раёне як праблемная. П'е горкую бесталковая маці, п'е бабка. Апошнюю пад чаркай цягне на подзвігі. Як вынік — шматлікія адміністрацыйныя пратаколы за дробнае хуліганства і распіцце спіртных напіткаў у грамадскіх месцах. Акрамя таго, бабулька да самазабыцця любіць паскандаліць. Няважна з кім: хоць з суседзямі, хоць з участковым, хоць з роднымі ўнукамі.***

Павел, які дажыў у такім асяроддзі да трынаццаці гадоў, не па чутках ведаў, што такое гарэлка і іншыя недзіцячыя "радасці". Мясцовы ўчастковы не раз заўважаў характэрныя сляды клею на яго адзенні. А яшчэ Павел вядомы сваёй схільнасцю да ўцёкаў з дому. Яго двухтрохдзённыя адлучкі нікога з блізкіх не здзіўлялі. Нікуды не дзенецца, надакучыць бадзяцца, вернецца.

У чарговы раз ён знік у кастрычніку мінулага года. Пасля бурнага скандалу з п'янай бабуляй, хлопчык накіраваўся куды вочы глядзяць. Хадзіў па горадзе з прыяцелямі, начаваў дзе давядзецца, еў, што Бог пашле. Прасіў міласціну і, хутчэй за ўсё, краў. Але злоўлены за гэтым заняткам не быў.

Ён не вярнуўся дамоў ні на трэці дзень, ні на пяты.

Бабка заявіла аб знікненні ўнука ў Маскоўскае РУУС сталіцы праз два тыдні.

Звесткі аб тым, дзе можа знаходзіцца Паша, былі даволі скупымі. У мінулым годзе яго бачылі ў падазронай кампаніі ў раёне вуліцы Дзяржынскага, потым — каля царквы на Нямізе. З пачатку гэтага года пра хлопчыка не паступала ніякіх звестак. Тры месяцы, як ён быццам у ваду кануў. У самы час было западозрыць самае горшае. Ці не здарылася няшчасце?

Быў аб'яўлены рэспубліканскі вышук, здымак без весткі прапаўшага публікаваўся ў газетах, яго паказвалі па тэлебачанні. Вышуковая група Маскоўскага РУУС вяла карпатлівую работу і выйшла-такі на след уцекача.

У лютым яго фота трапіла на вочы свяшчэнніку манастыра ў адной з вёсак пад Мінскам. Каля паўгода таму святы айцец прытуліў у сябе хлопчыка, як дзве каплі вады падобнага на таго, каго шукалі. Павел сказаў, што ён сірата і жыць яму няма дзе. Дапамагаў у будаўніцтве манастыра, пасвіў кароў, займаўся гаспадаркай. Адным словам, ён стаў сваім у святым прыстанку. Яму паверылі. А тут раптам такая нечаканасць. Аказваецца, хлопец увесь гэты час хлусіў. Свяшчэннік паведаміў аб сваім падапечным у міліцыю.

Работнік вышуку, які прыбыў на месца, нямала здзівіўся, калі знайшоў Пашу ў новай іпастасі. Ну чысты анёл, ды і толькі! Нават "Ойча наш" на памяць вывучыў. Тым не менш асаблівага даверу яго ўяўная пакорлівасць і расповеды пра намер стаць у будучыні свяшчэннікам у опеРупаўнаважанага Юрыя Зыбайлы не выклікалі. Унутраную сапсаванасць цяжка схаваць пад маскай набожнасці. Па дарозе дамоў падлетак ва ўсю мацярыўся і расказваў непрыстойныя анекдоты. Некаторыя іншыя штрыхі яго паводзінаў таксама мала былі падобныя на "святасць"...

Сям'я не доўга радавалася вяртанню блуднага сына і ўнука. Хлопчык таксама не адчуваў асаблівай радасці ад сустрэчы з раднёй. Не ў дакор божым людзям будзе сказана, але, мяркуючы па ўсім, у манастыры гарэза адчуваў сябе больш прывольна, чым дома.

Паша прыгразіў маці, што калі тая не адвязе яго назад у вёску, то ён зноў уцячэ куды вочы глядзяць. Пагроза падзейнічала. Не мінула і трох тыдняў, як хлопчык зноў пераступіў парог святога прыстанку, дзе ён сёння і знаходзіцца. Ці ўдасца манахам накіраваць яго грэшную душу на шлях сапраўдны? Добра было б.

**Любоў МУРЫЛЁВА,**
**прэс-афіцэр Маскоўскага РУУС Мінска.**

Выхаванне: асабісты погляд

# Не абвяргаць, а разумна выкарыстоўваць

На жаль, негатыўныя з'явы ў паводзінах і ладзе жыцця вучняў не маюць тэндэнцыі да памяншэння. Курэнне падлеткаў у школе сёння не самая страшная правіннасць. Усё часцей можна чуць у навучальнай установе аб наркотыках, сексуальнай разбэшчанасці, крымінальных злачынствах. Дзіцячая непасрэднасць, сумленнасць, даверлівасць, характэрныя для малодшых школьнікаў, да шостага-сёмага класа знікаюць як ранішні туман. Паміж дарослым і дзіцем абрываецца нябачная нітка, якая падтрымлівала ўзаемаразуменне.

Што можа дапамагчы педагогу, на што яму абапірацца ў выхаванні юнай змены? Асноўныя накірункі гэтай работы выкладзены ў "Канцэпцыі выхавання дзяцей і моладзі ў Рэспубліцы Беларусь", у якой вызначаны мэты, найважнейшыя заканамернасці, прынцыпы, задачы, функцыі, змест выхавання. Аднак рэальны механізм духоўна-маральнага выхавання яшчэ не адпрацаваны.

Сваю дапамогу ў працэсе выхавання навучэнцаў прапануюць розныя рэлігійныя арганізацыі. Больш за тое, некаторыя з іх гатовы і матэрыяльна падтрымаць школу, дзяцей, настаўнікаў. Але гэта можа аказацца "бясплатным сырам у пастцы", і потым давядзецца пажынаць сумныя плады такой дапамогі. У той жа час неабходна ўлічыць той факт, што рэлігія адыгрывае значную ролю ў жыцці людзей.

Змяненне сістэмы выхавання мае на мэце трансфармацыю ўсіх яе кампанентаў і, у першую чаргу, абнаўленне зместу. У сувязі з гэтым трэба сур'ёзна паставіцца да рэлігійнага вопыту, які з'яўляецца часткай чалавечай культуры і арганічна ўваходзіць у гісторыю духоўнага жыцця людзей. Еўрапейская культура грунтуецца на хрысціянскай маралі, у рэлігійных формах чалавецтва на працягу тысячагоддзяў збірала і развівала паняцці пра міласэрнасць, суцяшэнне, спачуванне, падзяку, абавязак і іншыя законы і прынцыпы чалавечага жыцця. У рэлігійнай маралі ёсць шэраг найпрасцейшых і важных нормаў маральнасці, выпрацаваных пакаленнямі людзей, этычныя каштоўнасці, прынцыпы сацыяльнага супольнага жыцця, правілы ўзаемінаў з прыродным наваколлем і г.д.

Бясспрэчна, знаёмства з асновамі рэлігіі ўнясе свой уклад у авалоданне дасягненнямі сусветнай і айчыннай культуры, свабоднае самавызначэнне моладзі ў светапоглядных пазіцыях, духоўных інтарэсах і каштоўнасцях. Сацыялагічнае апытанне, праведзенае ў школах, паказала, што школьнікі праяўляюць пэўную цікавасць да вывучэння рэлігіі. У нейкай ступені гэтую цікавасць можа задаволіць курс "Рэлігіязнаўства", які вывучаецца ў многіх школах.

З другога боку, трэба пазбегнуць перабольшання ролі рэлігіі ў маральным выхаванні асобы. Рэлігійная вера сама па сабе не з'яўляецца неабходнай перадумовай маральнасці. Пра гэта пісалі прадстаўнікі самых розных філасофскіх напрамкаў. Так, З.Фрэйд у рабоце "Будучыня адной ілюзіі" адзначаў, што ў рэлігіі за мінулыя тысячагоддзі была цудоўная магчымасць паказаць, на што яна здольная. Аднак нават у эпоху яе бязмежнага духоўнага панавання людзі не былі ні больш шчаслівымі, ні больш маральнымі. "Амаральнасць ва ўсе часы знаходзіла ў рэлігіі не меншую апору, чым Амаральнасць", — гаварыў ён. Многавяковая гісторыя чалавечай цывілізацыі сведчыць пра тое, што ўзровень маралі ў грамадстве ніколі не быў прапарцыянальны колькасці веруючых. Мяжа паміж маральнасцю і амаральнасцю не супадае з мяжой паміж рэлігійнай і нерэлігійнай свядомасцю.

Не лішне нагадаць таксама, што, згодна з артыкулам 8 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацыях", "дзяржаўная сістэма адукацыі і выхавання ў Рэспубліцы Беларусь носіць свецкі характар і не ставіць мэтай фарміраванне таго ці іншага стаўлення да рэлігіі". А ў артыкуле 23 гэтага Закона зазначана: "Рэлігійныя абрады ў дачыненні да асоб да 15 гадоў спраўляюцца па згодзе іх бацькоў або асоб, якія замяняюць іх паводле закона". Дзяржава паважае правы асобы ў сферы духоўнага самавызначэння. Гэта павінна выключаць якія-небудзь прывілеі для той ці іншай канфесіі ці рэлігіі. У той жа час маладыя людзі маюць права атрымліваць рэлігійную адукацыю па сваім выбары, але не ў школе, а дома ці пры рэлігійнай арганізацыі. Свецкі характар школы азначае, што ў школе не дапускаецца рэлігійная прапаведзь, навучанне Закону Божаму, хаця не выключаецца выкладанне навуковых звестак аб гісторыі рэлігіі, яе ролі ў жыцці грамадства і чалавека.

Такім чынам, хрысціянская мараль можа служыць прыкладам, на які трэба арыентавацца, але захапленне рэлігійнымі рытуаламі, не можа замяніць працэсу выхавання. А такія з'явы дзе-нідзе маюць месца ў школах. У школьную тэрміналогію шырока ўкараняюцца словы з рэлігійнага лексікону. І існуе пагроза рэзкага пераходу ад адной крайнасці да другой — ад атэізму, адмаўлення рэлігіі да яе ўзнясення над усім, да ідэалізацыі, пераходу ад навукова-матэрыялістычнага разумення свету да рэлігійнага. Хаця рэлігійная вера большай часткі прыхільнікаў той ці іншай рэлігіі толькі ўяўная, не цвёрдая. Вельмі часта гэта толькі "мода на рэлігію". Трэба адмовіцца ад прадузятасці, што без веры ў Бога немагчыма чалавечая маральнасць, і прызнаць магчымасць іншых, нерэлігійных асноў маральнасці.

На мой погляд, выхаваўчая работа павінна быць накіравана на фарміраванне агульначалавечых, грамадскіх каштоўнасцяў, якія прызнаваліся ва ўсе часы. Дэмакратызацыя нашага грамадства патрабуе пераносу акцэнту на прыярытэтнае значэнне агульначалавечых каштоўнасцяў у духоўным жыцці людзей. Агульначалавечыя каштоўнасці стаяць вышэй класавых, палітычных і светапоглядных.

**Мікалай СІНКЕВІЧ,**
**намеснік дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце Дараганаўскай санаторнай школы-інтэрната Асіповіцкага раёна.**

Ушаноўванне

# Лепшым названы клуб "Тарнада"

***У Мінгарвыканкаме падведзены вынікі штогадовага конкурсу "Таленавітая моладзь". У намінацыі "Я і мая Айчына" лепшым са сталічных ваенна-патрыятычных клубаў прызнаны клуб "Тарнада", які быў узнагароджаны граматай і каштоўным падарункам.***

За амаль тры гады свайго існавання клуб паспеў ужо добра зарэкамендаваць сябе не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі. У яго арсенале — прыз "За волю да перамогі". Заслужылі яго "тарнадаўцы" за паспяховае выступленне ў мінулым годзе на ваенна-спартыўных гульнях у Калінінградзе, куды прыехалі звыш сарака каманд.

Не так даўно члены гэтага ваенна-патрыятычнага клуба ўдзельнічалі ў вахце памяці каля манумента Перамогі ў Мінску.

Як зазначыў дырэктар "Тарнада" Аляксей Слінько, гэтым летам плануецца правядзенне на базе баявых плыўцоў пад Калінінградам экстрэмальнага летніка. Ёсць адпаведная дамоўленасць з расійскімі калегамі. Дапамагчы ў арганізацыі паездкі абяцае аддзел па справах моладзі Мінгарвыканкама. Падчас экстрэмальнага летніка юнакі змогуць скокнуць з парашутам, зрабіць падводнае пагружэнне, прайсці вышынную падрыхтоўку...

**Аляксандр ГРАЧОЎ.**

Сітуацыя

# Бляск і пакуты мастацкай студыі

***У студыі выяўленчага мастацтва Фрунзенскага раёна сталіцы займаюцца дзеці і падлеткі ва ўзросце ад шасці да шаснаццаці гадоў. Амаль на паўдзесятка вучняў ёсць толькі адзін (але які!) кіраўнік — Рыма Мікалаеўна Карачан. У 1998 годзе гэтая цудоўная жанчына стала педагогам года ў Фрунзенскім раёне. Работы яе вучняў прымалі ўдзел у шматлікіх конкурсах і выставах, у тым ліку "Пэндзаль-чараўнік" (першае месца), "Сонца скрозь дождж" (першае і трэцяе месцы), "Подых вясны", "Мой свет — мая надзея" і інш.***

Нягледзячы на такія высокія дасягненні пра гэтую студыю "наверсе" ўзгадваюць толькі падчас яе поспеху. Але якім шляхам ён дасягнуты, якія існуюць штодзённыя праблемы — нікога не хвалюе. Вось і цяпер Рыма Мікалаеўна перанесла заняткі на раніцу нядзелі, бо няма святла, каб займацца пасля трох гадзін. Электрычнасць адключылі за няўплату. Прычым грошы не ўнёс "сусед" студыі — абласное аддзяленне ДАІ, што займае другое крыло будынка. Таму дзеці апынуліся заложнікамі стражаў парадку. А начальства? Яно маўчыць. Але гэта толькі апошняе з цэлага шэрага цяжкасцей, што ўзніклі за мінулыя гады.

У 1998 годзе студыю ўпершыню "папрасілі" са старога памяшкання. Матывавалася ўсё тым, што на яе месцы будзе створана нейкая спартыўная секцыя. Былі калектыўныя пісьмы ад бацькоў, звароты ў Фрунзенскі выканкам, іншыя спробы адваяваць памяшканне назад. Але ўсё засталося без увагі.

І вось студыя выяўленчага мастацтва пераязджае ў ЖЭС №101. Тут умовы аказаліся зусім невыноснымі: маленькае памяшканне, разбітая мэбля, суседства з заалагічным гуртком і, як вынік, — своеасаблівы "водар". У студзені 2000 года юным мастакам нарэшце пашанцавала, і яны, разам з выкладчыцай, на санках, самастойна, перавезлі рэчы ў былы дзіцячы садок, дзе займаюцца па сённяшні дзень. Аднак і тут узніклі праблемы, звязаныя з асвятленнем.

Датычацца такія цяжкасці толькі гэтай студыі ці ўсіх падобных гурткоў (у Мінску іх прыблізна шэсць) — невядома. Але і пра поспехі астатніх нічога не чутна. Нават у японскай выставе, прысвечанай экалагічнай тэматыцы, з усёй Беларусі ўдзел прымалі толькі работы вучняў Рымы Мікалаеўны.

Старэйшае пакаленне папракае моладзь за тое, што яна нічым добрым не займаецца, толькі курыць у пад'ездах ды малюе на сценах. Але часам адказныя асобы забываюцца стварыць умовы для развіцця маладога пакалення. Няўжо гэта так складана? І ўвогуле чаму "кветкі жыцця" павінны пакутаваць ад "гульняў" дарослых.

Ганулі Мурататавай восем год. Яе поспехі ў мастацтве пакуль вельмі сціплыя. Можа здарыцца так, што і не пойдзе яна далей па гэтым шляху. "Але гэта не важна, — лічыць яе маці Святлана. — Штодзень у нас у пад'ездзе збіраюцца падлеткі. Ім няма чаго рабіць, ды яны і не імкнуцца чым-небудзь заняць сябе. Таму калі дзіця з самага пачатку жыцця нічым не зацікавіць, то з яго вырасце гультай. А дзеці цягнуцца сюды, у студыю. Тут пануе нейкая своеасаблівая атмасфера..."

А атмасфера і сапраўды цудоўная. Сцены невялікага памяшкання ўпрыгожаны малюнкамі дзяцей, рознымі вырабамі. У гэтым свяцілішчы мастацтва хочацца самому тварыць. Рыма Мікалаеўна ўзгадала выпадкі, калі бацькі, прыходзячы за дзецьмі, самі пачыналі маляваць. "Увогуле, было б добра праводзіць такія заняткі як нейкі псіхатэрапеўтычны сеанс", — гаворыць яна.

Некаторыя дзеці акрамя таго, што добра малююць, пішуць вершы. Нездарма кажуць, што таленавіты чалавек таленавіты ва ўсім. Нельга не пагадзіцца і са словамі, што "аднойчы дакрануўшыся да прыгожага, ужо нельга здзейсніць дрэнны ўчынак". Сапраўды, замест д'яблаў дзеці малююць у студыі анёлаў і цудоўных чараўніц.

Акрамя жывапісу дзеці авалодваюць тэхнікай і малюнкам па мокрай паперы, займаюцца аплікацыяй. Падчас майго прыходу дзяўчаты рыхтавалі паштоўкі. Меньшанькія ж рабілі просценькія, але прыгожыя карткі-гульні з вельмі вабнай змяёй. А хто меў вопыту паболей, той маляваў мініяцюры з зімовым пейзажам, якія потым выразаліся ў форме круга і ўстаўляліся непасрэдна ў паштоўку. Атрымлівалася вельмі прыгожа.

Рыма Мікалаеўна на працягу ўсіх заняткаў дапамагала кожнаму асабіста. Яна давала парады наконт колеру, формы, кампазіцыі. І тут я зразумела, чаму дзеці так любяць сваю выкладчыцу: яна ніколі не адмаўляе ў дапамозе, не сварыцца, а свой час цалкам аддае выхаванцам. І робіць гэта, не патрабуючы нічога ўзамен. "Рыма Мікалаеўна вельмі добрая, — расказала студыйка Наташа Стадніцкая. — Дзякуючы ёй мы навучыліся многаму. Напрыклад, правільна маляваць, рабіць розныя ўпрыгожанні да чарговага свята. Тут я займаюся ўжо сёмы год і ведаю, што і ўсе дзеці любяць Рыму Мікалаеўну. Яна ніколі не сварыцца, нават тады, калі разальеш фарбу. Толькі скажа: "З кім не здараецца". Так што вялікі ёй дзякуй".

Што ж, дарослага можна падмануць, а дзіця — ніколі. Калі яно цягнецца да пэўнага чалавека, то гэтаму ёсць прычына.

Вось у такіх умовах, у асяроддзі любові і дабрыні выхоўваюцца будучыя мастакі. Адна з першых выхаванак Рымы Мікалаеўны вучыцца ў Акадэміі мастацтваў. Яшчэ шмат хто паступіў і атрымлівае веды ў ліцэі мастацтва, школах з эстэтычным ухілам. Канешне, мара большасці дзяўчат — атрымаць прафесію мадэльера ці дызайнера. І магчымасці для гэтага ў іх ёсць.

А якая мара ў выкладчыцы? "Хацелася б стварыць школу мастацтва. І каб там працавалі людзі захопленыя, не я адна, а калектыў аднадумцаў. Галоўнае — толькі б нам не перашкаджалі, а ўсё астатняе зробім самі".

**Уладзя САРОКІНА.**

Алімпіяды: надзеі і рэаліі

# У фінале гучалі фанфары

*Грамадству XXI стагоддзя патрэбны свае такія маленькія філосафы, людзі з актыўнай жыццёвай пазіцыяй. Знайсці такіх людзей — найважнейшая задача педагагічнай і псіхалагічнай навукі. І яны будуць знойдзены. Бо нішто так не спрыяе развіццю навукі, як сапраўдныя патрэбнасці грамадства.*

Па радыкальнасці адукацыйнай ідэі, навукова-метадычным і тэхналагічным забеспячэнні, шырыні распаўсюджання ў практыцы развіццёвае навучанне (сістэма Д.Б.Эльконіна — В.В.Давыдава) з'яўляецца адной з найбольш значных інавацыйных сістэм у адукацыйнай прасторы Гомеля.

Першыя класы развіццёвага навучання ў горадзе былі адкрыты ў 1991-1992 навучальным годзе ў сярэдніх школах №№7, 52 настаўнікамі Е.Ф.Пашук, Л.М.Прыходзька, Е.М.Грыбанавай.

Сёння ў школах горада 33 класы развіццёвага навучання, у якіх навучаюцца 774 вучні.

Для больш паспяховага ўкаранення развіццёвага навучання ў 1998 годзе пры гарадскім метадычным кабінеце было створана інавацыйнае таварыства педагагічных кадраў школ, якія праводзяць развіццёвае навучанне, — "РОшнік". Узначаліла таварыства заслужаны настаўнік, выдатнік адукацыі А.Ф.Пашук. У 1999 годзе пры падтрымцы Беларускай Асацыяцыі тэорыі развіцця вынаходніцкіх задач і Лабараторыі адукацыйных тэхналогій А.А.Гіна (Беларусь — Расія — Украіна) таварыства "РОшнік" атрымала статус члена Міжнароднай асацыяцыі "Развіццёвае навучанне" (сістэма Эльконіна-Давыдава). Дзейнасць таварыства яшчэ раз пераканала і даказала, што сістэма развіццёвага навучання з'яўляецца перспектыўнай і высокаэфектыўнай у навучальна-выхаваўчым працэсе школы, яна спрыяе развіццю асобы, станаўленню суб'ектыўнай пазіцыі дзіцяці.

Мне не хацелася б пачынаць дыскусію, якая з сістэм лепшая: тая, якой карыстаецца масавая школа, ці сістэма развіццёвага навучання. Абедзве маюць свае навуковыя і маральныя абгрунтаванні. Адным з напрамкаў дзейнасці таварыства з'яўляецца правядзенне школьных і гарадскіх алімпіяд па развіццёвым навучанні.

У мінулым навучальным годзе была праведзена першая гарадская алімпіяда сярод вучняў чацвёртых класаў развіццёвага навучання.

Сёлета, у лютым, адбылася другая такая ж алімпіяда. Правядзенне такога роду мерапрыемстваў абумоўлена неабходнасцю падтрымліваць асваенне адукацыйнай сістэмы Эльконіна-Давыдава ў масавай педагагічнай практыцы праз выяўленне дасягненняў, цяжкасцяў і праблем вучняў і педагогаў. А таксама вызначыць рэзультатыўнасць работы выпускных класаў развіццёвага навучання пачатковай школы ў параўнальным аспекце, ацаніць узровень авалодання вучнямі прадметнымі ведамі і развіццёвы эфект навучання, выявіць найбольш здольных вучняў для далейшай іх падтрымкі, пашыраць узаеміны дзяцей з розных школ развіццёвага навучання паміж сабой, спрыяць абмену вопытам і павышэнню кваліфікацыі педагогаў.

Усяго ў II гарадской алімпіядзе прынялі ўдзел 54 вучні з 9 школ горада: сярэдніх школ №№5, 7, 16, 35, 44, 52, 60, 71 і Ірынінская гімназія.

Алімпіяда ўключала ў сябе спаборніцтвы вучняў 3 — 5 класаў развіццёвага навучання па двух вучэбных прадметах (руская мова і матэматыка) у індывідуальных і калектыўных формах правядзення і праводзілася ў два туры.

I тур — групавы (міжпрадметны), дзе ўдзельнікам у групе (камандзе) давалася заданне, у якім трэба было прадэманстраваць уменне рашыць прапанаваную задачу (стварыць праект ці выканаць творчае заданне) калектыўным спосабам за абмежаваны час і паказаць уменне публічна абараняць вынікі калектыўнай работы групы.

II тур — індывідуальны прадметны (асабістае першынства). Удзельнікам прапанавалася некалькі заданняў, якія патрабуюць ад іх: практычнага прымянення прадметных ведаў (у рамках прадметных праграм па рускай мове і матэматыцы); вызначэння ўзроўню сфарміраванасці вучэбных дзеянняў: пастаноўкі перад сабой задачы, планавання яе рашэння, мадэліраванне, кантролю і ацэнкі сваіх дзеянняў; умення вызначаць новыя ўмовы і задачы і знаходзіць спосабы дзеяння ў нестандартных сітуацыях; разумення падстаў, на якіх будуюцца базавыя раздзелы праграмы па прадмету.

Для правядзення ўсіх відаў спаборніцтваў і падвядзення вынікаў была створана Аб'ядналая судзейская калегія, якая ўключала судзейскія брыгады па прадметах. У склад калегіі ўвайшлі метадысты гарадскога метадычнага кабінета ўпраўлення адукацыі Л.Д.Ляўкоўская, В.Ф.Сташчанка, В.В.Галаўнёва, дырэктар сярэдняй школы №7 Л.М.Прыходзька, намеснік дырэктара па пачатковых класах сярэдняй школы №31 Н.Ч.Пашкоўская, настаўнікі развіццёвага навучання Е.М.Грыбанава і В.Д.Манчанка.

Два дні дзеці спрабавалі свае сілы і змагаліся за званне лепшай школы, лепшай каманды, лепшага вучня развіццёвага навучання.

Настаў дзень падвядзення вынікаў, узнагароджання разумнейшых, якія з годнасцю перамаглі, дабіліся лепшых вынікаў, адстаялі гонар сваёй школы. Спецыяльны прыз уручаны камандзе "Вірус" Ірынінскай гімназіі № 18 за самую арыгінальную, актуальную і змястоўную самападачу. Пераможцамі ў першым туры сталі каманды "Ягуар" (I месца) сярэдняй школы №7 (кіраўнік Е.М.Грыбанава), "Няма праблем" (II месца) сярэдняй школы №52 (кіраўнікі Л.А.Машкарова і І.В.Атаманчук), "Савяты" (III месца) сярэдняй школы №60 (кіраўнік Е.Г.Машкоўская). У індывідуальным туры мацнейшымі аказаліся: па матэматыцы — Юрый Пладуноў (I месца), сярэдняя школа №7 (настаўнік Л.М.Прыходзька), Віктар Уласенка (II месца), сярэдняя школа №7 (настаўнік Л.М.Прыходзька), Глеб Носаў (III месца), сярэдняя школа №52 (настаўнік Л.А.Машкарова), па рускай мове — Яўгенія Краўчанка (I месца), школа №7 (настаўнік Е.М.Грыбанава); Ігар Разцоў (II месца), школа №16 (настаўнік В.Ю.Савіцкая), Марыя Нікуліна (III месца), школа №71 (настаўнік Л.А.Садохіна).

Гучаць заключныя фанфары. І старшыня журы выносіць свой вердыкт: прызнаць, што другая гарадская алімпіяда развіццёвага навучання адбылася; аб'явіць усім удзельнікам алімпіяды падзяку; лічыць 2002 год годам новых перамог і адкрыццяў, годам новых надзей.

А надзеі былі... Паспрабаваць свае сілы ў завочным туры 6-й міжнароднай алімпіяды школ развіццёвага навучання. Дзяцей падтрымаў гарадскі выканаўчы камітэт. Але з-за складаных фінансавых працэдур пералічэння грошай нашы надзеі засталіся марамі. На жаль, да пераліку нявырашаных праблем развіццёвага навучання можна дадаць і гэту.

У мяне часта пытаюцца аб выніках работы класаў развіццёвага навучання. Усім патрэбны вынікі! Яны ёсць. Аб гэтым гавораць перамогі былых вучняў, якія займаліся па развіццёвым навучанні, у школьных, гарадскіх, абласных і рэспубліканскіх алімпіядах.

Афарызм Дэкарта "Мыслю, значыць, існую" ўжо сёння можна было б перадаць інакш: "Разумна мыслю, дзейнічаю, творча пераўтвараю свет і самога сябе дзеля чалавека, значыць, сапраўды існую на нашай цудоўнай зямлі".

**Любоў ЛЯЎКОЎСКАЯ,**
**метадыст вышэйшай катэгорыі гарадскога метадычнага кабінета ўпраўлення адукацыі Гомельскага гарвыканкама.**

Вопыт: аўтарская тэхналогія

# "Я пачала з сябе"

***Рэфармаванне адукацыйнай школы, на мой погляд, можна параўнаць з паходам у лес. Калі ісці і не азірацца, то можна і заблудзіцца.***

Каб гэтага не адбылося, першыя крокі на шляху рэформы мы пачалі са стварэння творчай групы настаўнікаў, якія неардынарна мысляць, маюць свой прафесійны почырк у рабоце і якія былі непасрэднымі ўдзельнікамі папярэдняй рэформы школы. Усведамляючы той факт, што старт рэформе дае міністэрства, а на фінішную прамую яе вывесці — справа рук настаўніка, мы прааналізавалі недахопы апошняй рэформы і дасканала вывучылі задачы па сучасным рэфармаванні не ўвогуле, а на ўзроўні нашай канкрэтнай школы, і ў прыватнасці пачатковай.

Адназначна было вырашана, што асобасна арыентаваны падыход ажыццявіць нялёгка пры сённяшнім матэрыяльным забеспячэнні школы, але ж працаваць трэба ў тых умовах, якія ёсць, і выкарыстоўваць максімум з рэальнасці. Гэта першае.

Другое. Нельга забываць не толькі дзеля чаго, але, галоўнае, дзеля каго ажыццяўляецца рэформа, г.зн. немалаважная задача тут — пазнаць дзіця, а праз пазнанне і разуменне развіваць яго здольнасці, забяспечыць вучню права на свой узровень вучэбнай дзейнасці.

І трэцяе. Кожны крок павінен быць мэтанакіраваным, з выхадам на канчатковы вынік.

Вынікам работы творчай групы настаўнікаў стала распрацоўка праграмы-схемы "Рэфармаванне сістэмы адукацыі пачатковай школы з улікам індывідуальна-псіхалагічных асаблівасцяў вучняў". У гэтай праграме разглядаецца арганізацыя работы вучэбна-пазнавальнай, дыягнастычнай, карэкцыйна-кампенсуючай, педагагічнай дзейнасці ў пачатковым звяне ў цеснай сувязі з метадычным і псіхалагічным суправаджэннем.

Рэалізацыя праграмы рэфармавання вызначыла крытэрыі выбару тэхналогіі арганізацыі навучальна-выхаваўчага працэсу пачатковай школы, дала рэальную магчымасць убачыць навучальны працэс з пазіцыі не толькі настаўнікаў, але і з пазіцыі самога школьніка, не сярэдняга, як мы звыкліся, а рэальнага Іванова, Пятрова і г.д.

З 500 вучняў пачатковай школы пра 76 чалавек гавораць "не такі, як усе", але ж гэта не значыць горшы, гэта зусім не значыць са знакам мінус. 46 з іх — з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця: 39 дзяцей займаюцца па праграме для дзяцей з затрымкай псіхічнага развіцця, 4 — па праграме дапаможнай школы, а 3 — па праграме для дзяцей з глыбокай формай разумовай адсталасці. 30 дзяцей — з кардынальнымі адхіленнямі ў паводзінах.

Добра прасочваецца рэзкае адрозненне ў апошні час узроўню інтэлектуальнага развіцця і ступені гатоўнасці да школы сярод дзяцей, якія паступаюць у школу.

Якую ж тэхналогію павінна мець наша школа? Перш за ўсё — здольную прыстасоўвацца да кожнага дзіцяці, да асаблівасцей асобных груп вучняў. Гэта першы крытэрый выбару тэхналогіі. Другі: навучанне кожнага ў адпаведнасці з узроўнем яго магчымасцяў і здольнасцяў на аснове граматнай прафесійнай дыягностыкі, але абавязкова пры засваенні дзяржаўнага мінімуму базавай праграмы. Трэці: неабходна ўлічваць кадравыя і матэрыяльныя магчымасці школы. Толькі тая тэхналогія дасць неабходны вынік, якая асэнсавана яе галоўным аўтарам — настаўнікам. Як выбраць такую тэхналогію, каб навучальна-выхаваўчы працэс быў найбольш эфектыўным? Які першы крок пры гэтым павінен зрабіць завуч?

Я пачала з сябе. Перачытала шмат літаратуры аб навуковых распрацоўках і практычных асаблівасцях новых ідэй, паспрабавала разабрацца ў вялізнай колькасці сучасных інавацыйных тэхналогій, каб не марнаваць час (ні свой, ні сваіх настаўнікаў) на адкрыццё ўжо вядомага, каб не па прызначэнні, а па мэце і змесце тэхналогія адпавядала патрэбнасцям школы, з'яўлялася асновай пераемнасці паміж дашкольнай дзіцячай установай і пачатковай школай, пачатковай школай і сярэднім звяном. Практычная работа па рэалізацыі асноўных відаў дзейнасці, такіх, як педагагічная, метадычная, карэкцыйная, вучэбна-пазнавальная, дыягнастычная і іншыя, па праграме рэфармавання вывела на тэхналогію дыферэнцыявана адаптыўнага развіцця.

Такой назвы не існуе ў кваліфікацыі вывучаных мной тэхналогій. Яна з'яўляецца абагульняючай, у аснову якой я паклала тэхналогію ўзроўневай дыферэнцыяцыі, тэхналогію школы адаптуючай педагогікі, культуравыхаваўчую тэхналогію дыферэнцыраванага навучання па інтарэсах і некаторыя іншыя. У нейкай ступені ствараецца аўтарская тэхналогія настаўнікаў нашай школы.

Другі этап — тэарэтычнае абгрунтаванне тэхналогіі: аналіз дыягностыкі, пастаноўка канкрэтных мэтаў, улік асаблівасцяў зместу і асаблівасцяў методыкі, кваліфікацыйная характарыстыка, узгадненне з дырэктарам і зацвярджэнне на педсавеце.

Наступны этап — распрацоўка метадычнага інструментарыя настаўніка. Вызначэнне ролі кожнага настаўніка ў апрабаванні і ўкараненні тэхналогіі, вывучэнне магчымасцяў кожнага настаўніка і г.д., тэарэтычнае азнаямленне з апісаннем паралельна з практычным апрабаваннем.

Падключэнне кіраўнікоў метадычнага аб'яднання, вопытных настаўнікаў да ўкаранення тэхналогіі прывяло да таго, што былі ўзаемазвязаны пытанні ўнутрышкольнага кантролю, тэматыка пасяджэнняў метадычных аб'яднанняў, тэматыка па вывучэнні, укараненні і рэалізацыі перадавога педагагічнага вопыту, тэматыка па самаадукацыі.

Напрыклад, на ўнутрышкольны кантроль вынесена пытанне "Выкарыстанне дыферэнцыяванага падыходу ў навучанні". Аналіз наведвання ўрокаў, гутарка з настаўнікамі паказалі, што асаблівасці методыкі дыферэнцыяванага навучання многія настаўнікі ведаюць павярхоўна, часцей за ўсё звязваюць іх толькі з дыферэнцыяваным заданнем. Вызначыліся і настаўнікі, якія маглі б навучыць іншых гэтай рабоце. На пасяджэнні метадычнага аб'яднання гэтае пытанне было грунтоўна вывучана, дадзена тэарэтычнае абгрунтаванне разумення дыферэнцыяцыі: разгледжаны дыферэнцыяцыя па ўзроўні разумовага развіцця (унутрышкольная і ўнутрыкласная, унутрыпрадметная), дыферэнцыяцыя па інтарэсах, культуралагічнага напрамку, улік выбару метадаў. З'явілася цікавая форма навучання настаўнікаў — апераджальныя кансультацыі.

Узроўневая дыферэнцыяцыя была паказана на адкрытых уроках на ўсіх этапах: пры тлумачэнні новага матэрыялу, замацаванні, паўтарэнні і пры кантролі за ўзроўнем сфарміраванасці ведаў, уменняў і навыкаў.

Кожны настаўнік з'яўляецца ўладаром вялікага поля "рассеяных" метадычных ведаў. У працэсе праектавання тэхналогіі адбываецца прымяненне гэтых ведаў, выпрацоўваецца новае педагагічнае мысленне: выразнасць, структурнасць, зразумеласць метадычнай мовы. Настаўнікі вызначылі канкрэтныя тэмы па вывучэнні і абагульненні свайго педагагічнага вопыту.

Актывізавалася творчасць настаўніка, знаходзіць адлюстраванне і адаптыўны бок тэхналогіі. Адаптыўная школа — гэта школа, дзе павінна быць месца кожнаму дзіцяці незалежна ад яго індывідуальных псіхалагічных асаблівасцяў і схільнасцяў. Рэалізацыя адаптацыі арганізавана праз інтэграванае навучанне. У гэтым мы знаходзім поўнае ўзаемаразуменне з дырэктарам школы Людмілай Аляксандраўнай Лемеш. Яна — дэмакратычны дырэктар і аказвае дапамогу і падтрымку і мне як завучу, і настаўнікам.

Інтэграванае навучанне — гэта рэальнае рэфармаванне агульнаадукацыйнай школы ў плане асобасна арыентаванага падыходу і гуманізацыі навучальна-выхаваўчага працэсу. Але зусім не гуманнае стаўленне да настаўніка, які працуе з гэтай катэгорыяй дзяцей, ні ў матэрыяльным, ні ў маральным плане, бо недастатковы ўзровень метадычнага суправаджэння арганізацыі інтэграванага навучання. Так, стаўка настаўніка, які працуе на пасадзе дэфектолага, не 18, а 20 гадзін, і працэнт ад стаўкі першага разраду за шкоднасць не кампенсуюць і часткова затраты, душэўныя і фізічныя, на арганізацыю вучэбна-пазнавальнай дзейнасці інтэграванага навучання. І толькі дзякуючы багаццю душы, прафесійнаму майстэрству настаўнікаў (сярод іх настаўнікі толькі вышэйшай і першай катэгорыі) цёпла і камфортна дзецям, якіх пакрыўдзіў лёс. Настаўнікі распрацавалі на аснове вынікаў псіхолага-педагагічнага абследавання некалькі варыянтаў плана карэкцыйна-развіццёвай дзейнасці (каляндарных і перспектыўных) для работ у класах як першай, так і другой мадэлі. Распрацаваны шэраг планаў-канспектаў карэкцыйна-педагагічных і карэкцыйна-развіццёвых заданняў, складзены індывідуальныя праграмы па навучанні асобных вучняў. І, як мне здаецца, склалася мэтанакіраваная, метадычна абгрунтаваная сістэма работы па інтэграваным навучанні.

Адаптацыя школы да дзіцяці, да яго ўзроставых і індывідуальных асаблівасцяў дасягаецца сістэмай дыферэнцыяцыі навучальна-выхаваўчага працэсу, якая прадугледжвае варыятыўнасць зместу і метадаў.

Сёння наша школа мае статус эксперыментальнай пляцоўкі па праблеме "Рознаўзроўневая дыферэнцыяцыя і адукацыйная праграма "Школа-2001". Эксперымент — не самамэта. Сэнс мы бачым у асобасным развіцці кожнага дзіцяці праз унутрыпрадметную дыферэнцыяцыю, удасканаленне работы з таленавітымі дзецьмі праз увядзенне інфарматыкі і рыторыкі.

Метадычную работу мы павярнулі тварам да настаўніка: калі ён не прапусціць праз сябе, не ўсвядоміць новую ідэю, наўрад ці можна спадзявацца на поспех. Галоўнае — своечасова заўважыць прафесійныя здольнасці настаўніка, дапамагчы яму зацвердзіцца ў майстэрстве і падтрымаць хоць крыху матэрыяльна і маральна. "...опозданием мы наказаны, что слова любви поздно сказаны". Гэтыя словы як нельга лепей папярэджваюць аб неабходнасці своечасовай ацэнкі дзейнасці настаўніка.

У школе паступова фарміруецца імянны метадычны банк даных на кожнага настаўніка, сабраны багаты матэрыял з вопыту работы, які з'яўляецца якасным метадычным суправаджэннем пры рэалізацыі тэхналогіі дыферэнцыявана адаптаванага развіцця па розных тэмах. "Самастойная работа — эфектыўны метад рэалізацыі тэхналогіі дыферэнцыявана адаптаванага развіцця" — настаўніца вышэйшай катэгорыі І.Г.Зыль працягвае распрацоўку гэтай тэмы, апрабоўвае з гэтага навучальнага года тэхналогію "Крок за крокам".

Абагульнены вопыт работы на пасяджэнні метадычнага аб'яднання настаўніцы вышэйшай катэгорыі Л.А.Кучынскай па тэме "Тэхналогія апаратарнай канцэпцыі лічбы — рэалізацыя дыферэнцыяцыі па ўзроўні развіцця, аснова апераджальнага навучання".

Настаўніца першай катэгорыі М.А.Дваракоўская напрацавала шмат матэрыялу (як практычнага, так і тэарэтычнага) па тэме "Карэкцыйна-педагагічная дзейнасць — рэалізацыя тэхналогіі дыферэнцыявана адаптаванага развіцця на аснове дыягностыкі".

У стадыі апрабацыі знаходзяцца матэрыялы, падрыхтаваныя настаўнікамі С.М.Панчанка і З.І.Каранько па тэме "Адзінства індывідуальнага і сацыяльнага развіцця асобы дзіцяці пры вывучэнні спецкурса "Знаёмства з эканомікай"".

Ёсць шэраг нявырашаных праблем у рэалізацыі тэхналогіі дыферэнцыявана адаптыўнага развіцця:

1. Недастаткова ўвагі надаецца рабоце з адоранымі дзецьмі;
2. Не хапае дэфектолагаў і псіхолагаў;
3. Недастатковае навукова-метадычнае суправаджэнне тэхналогіі дыферэнцыявана адаптаванага развіцця ва ўмовах рэфармавання.

Хачу звярнуць увагу яшчэ вось на што. Неаднаразова гаварылася, што толькі 50 працэнтаў вучняў засвойвае праграму базавага кампанента. А астатнія 50 працэнтаў дзе? Сутнасць рэформы — індывідуальны падыход у рабоце з дзецьмі. Праграмы, якія дзеці на самай справе могуць засвоіць, стварыць не цяжка. Але на гэта ніхто не ідзе, бо лічыцца, што тады ў нас знізіцца агульны ўзровень адукаванасці. Я ж лічу, што ён, наадварот, пойдзе ўверх, таму што тыя, хто цяпер вучыцца слаба, будуць вучыцца добра на сваім узроўні. Гэтыя дзеці будуць мець поспех у іншых жыццёвых сферах. Яны перастануць баяцца школы, настаўніка. У іх жыцці стане менш стрэсаў, а значыць будзе менш праблем і са здароўем. Думаю, што і колькасць правапарушэнняў паменшылася б. Але пакуль, на жаль, мы павінны любой цаной выконваць вучэбны план і праграму, не думаючы пра наступствы.

Я ўдзячная лёсу, што побач са мной працуюць такія цудоўныя людзі. І нездарма панарама адкрытых урокаў па выніках навучальнага года замацавала за сабой назву "Іскры святыя настаўніцкіх сэрцаў".

**Марыя САШЧАНКАВА,**
**намеснік дырэктара па пачатковых класах сярэдняй школы №1 імя В.Ф.Купрэвіча Смалявіч.**

Праграма: "Адораныя дзеці"

# Ступень навуковай творчасці

***Адбылася XX гарадская навукова-практычная канферэнцыя вучняў, арганізаваная аддзелам інтэлектуальнай творчасці мінскага Палаца дзяцей і моладзі сумесна з упраўленнем адукацыі Мінгарвыканкама. Такім чынам завяршыўся заключны этап алімпіяды школьнікаў на лепшую навукова-практычную работу.***

Работы вучняў абмяркоўваліся на секцыях фізікі, астраноміі, экалогіі, матэматыкі, хіміі, тэхнічнай творчасці, праграміравання, біялогіі. Дзесяткі вучоных вядучых ВНУ, НАНБ на працягу двух дзён заслухоўвалі даклады школьнікаў. Навукова-практычнай работай вучняў кіравалі настаўнікі, вучоныя краіны.

У выніку сумеснай працы школьнікаў і вучоных Рэспублікі Беларусь да ўзнагароджання і ўдзелу ў рэспубліканскім конкурсе былі вызначаны дзесяткі школьнікаў. Усе вучні, якія прадставілі работы, атрымалі пасведчанне ўдзельніка XX навукова-практычнай канферэнцыі. Аплата работы за навуковае кіраўніцтва, работу вучоных у журы, каштоўныя падарункі вучням, граматы, пасведчанні і іншыя расходы па арганізацыі навукова-практычнай канферэнцыі і работу па развіцці інтэлектуальнага патэнцыялу нашай краіны ўзяў на сябе фонд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Аляксандр Рыгоравіч праяўляе пастаянны клопат аб інтэлектуальнай моладзі, хоць маладыя людзі краіны не заўсёды разумеюць, што для правядзення даследавання неабходны матэрыяльныя выдаткі (памяшканні, тэхніка, абсталяванне, матэрыялы, хімічныя рэактывы). Акрамя маральнай падтрымкі вучні, якія перамаглі ў алімпіядзе, атрымліваюць ільготы пры паступленні ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Такі гуманны падыход патрабуе і асаблівай адказнасці вучняў, настаўнікаў, вучоных за падрыхтоўку, правядзенне даследчай працы, уменне паказаць вынікі даследаванняў. Журы не заўсёды лёгка знайсці вартыя работы. Усё адносна, і часам дзіцячыя даследаванні не заслугоўваюць такой высокай ацэнкі. Як член журы лічу неабходным спыніцца на крытэрыях ацэнкі і асноўных недахопах у вучнёўскіх даследаваннях.

Даследчая работа фарміруе ў вучняў арганізацыйныя, інфармацыйныя, інтэлектуальныя і камунікатыўныя ўменні і навыкі. Арганізацыйныя ўменні і навыкі — гэта ўменне фармуляваць мэту назірання, доследу ці даследавання, самастойна падбіраць абсталяванне і аб'екты, паслядоўна выконваць работу. Інтэлектуальныя — гэта лагічнасць назіранняў, афармленне вынікаў назіранняў, выхаванне волі, мэтанакіраванасці, самастойнасці. Інфармацыйныя — параўнанне вынікаў уласных назіранняў з літаратурнымі данымі, уменне зрабіць аналіз, вывады, аформіць вынікі назіранняў. Камунікатыўныя — уменне паведаміць вынікі ўласных назіранняў у выглядзе тэкставага даклада, паведамлення, уменне выслухаць пытанне і адказаць на яго. Фарміраванне такіх уменняў і навыкаў прыводзіць да развіцця творчых якасцей асобы.

Прыватнымі метадамі навуковага пазнання ў прыродазнаўчым цыкле навук з'яўляецца назіранне, параўнальна-аналітычны метад, даследаванне. Назіранне — абавязковае звяно ў пазнанні прыроды. Праводзячы назіранні ў прыродзе, школьнікі вучацца прыкмячаць, што ў сваю чаргу вядзе да выхавання волі, мэтанакіраванасці, самастойнасці, развіцця пазнавальнай актыўнасці, фарміравання светапогляду і каштоўнасных арыентацый.

На назіранні базіруюцца ўсе прыватныя метады навуковага пазнання. Таму важна навучыць вучняў не дапускаць памылак пры фарміраванні ўменняў назіраць за аб'ектамі і з'явамі прыроды. Пры вывучэнні навуковых работ вучняў, якія праводзяцца пад кіраўніцтвам вучоных НАНБ, менавіта гэты этап часта ігнаруецца. Несумненна, прасцей даць у рукі вучням вынікі навуковых даследаванняў лабараторыі, у якой яны працуюць. Аднак пры абароне такога праекта адчуваецца прабел у ведах вучняў аб аб'екце даследавання, прасочваецца нізкі ўзровень ведання эвалюцыі, марфалогіі, фізіялогіі, сістэматыкі, экалогіі аб'екта даследавання. У дакладах вучняў можна пачуць выразы: "Я дапамагаў свайму кіраўніку ў НАНБ". Смешна, калі гэта гаворыць вучань 7 класа. Працэс пазнання працяглы, не прыспешвайце вучняў, не вучыце іх лёгкаму шляху ў навуку. Не пазбаўляйце дзіця задавальнення ад узаемін з прыродай, радасці пазнання. А.Я.Герд гаварыў, што кожнае дзіця павінна прасачыць шлях ад сяўбы насення да самай яго смерці. Вальдорфская педагогіка вучыць пашыраць кола пазнання ад працэсу сяўбы зерня да выпечкі хлеба. Бярыце дзіця з сабой у прыроду, вучыце яго бачыць, думаць, прагназаваць.

Другі крок у пазнанні — гэта параўнальна-аналітычны метад. Ён уяўляе сабой паглыблены і больш выніковы від назірання. Метад забяспечвае пазнанне частак цэлага і адносін паміж гэтымі часткамі, якія даюць магчымасць адносіць іх да сістэматычных груп і класіфікаваць. Пры параўнальна-аналітычным метадзе мае вялізнае значэнне не толькі параўнанне, але таксама аналіз і сінтэз вынікаў назірання. Аднак гэты метад пазнання мае свае недахопы — вывучаюцца знешнія асаблівасці аб'ектаў, што не дае магчымасці дастаткова глыбока пранікнуць у сутнасць пазнаваемых прадметаў і з'яў.

У настаўнікаў-практыкаў і нават у некаторых вучоных даследаванне вучняў не даходзіць да гэтага этапа. Даследаванне базіруецца толькі на назіранні і канстатацыі назіраемых з'яў. Нават калі работа доўжыцца 2 — 3 гады, юны даследчык усё роўна канстатуе назіраемую з'яву. "Праца зайшла ў тупік", — інакш не скажаш. Вучань не заўсёды можа зразумець, што ад яго хочуць члены журы, яны пра нешта пытаюцца, ён выкручваецца, перафразіруе тое, што сказаў раней, але самастойнага выйсця з узнікшай сітуацыі знайсці не можа.

Кіраўніцтва навуковай работай прадугледжвае дапамогу настаўніка і вучонага ў падобнай сітуацыі. Лягчэй з гэтым спраўляюцца вучоныя, таму што ім гэта знаёма, а вось настаўнікі, выхаваныя на стандартных прыкладах з кніг, не заўсёды могуць, напрыклад, патлумачыць прыналежнасць чырвоных і чорных божых каровак да аднаго віду. Экалагічна блізкія папуляцыі, заўважаныя даследчыкам, могуць прывесці да новага накірунку ўжо генетыка-экалагічнага даследавання пры своечасовым падключэнні яго да патрэбнай цікавай крыніцы і выяўленні прычынна-выніковых сувязей.

Больш высокая ступень навуковай творчасці — эксперымент і даследаванне. Эксперымент — галоўны метад пазнання ў прыродазнаўчых навуках. Пры эксперыментаванні даследчык актыўна ўмешваецца ў з'явы. Гэты метад пазнання, пры якім з'явы прыроды вывучаюцца ў штучна створаных умовах, што параўноўваюцца з кантрольнымі. Эксперымент уключае этапы: вызначэнне мэты эксперыменту, падбор абсталявання і аб'ектаў, канструяванне ўмоў доследу, назіранне ў працэсе эксперыменту, фармуляванне вывадаў з назіранняў, параўнанне, устанаўленне прычынна-выніковых сувязей, фармуляванне вывадаў з доследу. На вялікі жаль, у гарадскіх умовах палявы дослед сустракаецца ў практыцы рэдка. Часцей гэта лабараторны дослед. Пажадана, каб дослед быў больш варыятыўны і меў большую колькасць паўторнасцей. Часцей за ўсё вучні прадстаўляюць доследы, якія маюць разавы характар. Трэба памятаць, што эксперымент варта разглядаць як адзінства тэорыі і практыкі, што вядзе да глыбокага раскрыцця сутнасці аб'ектаў, якія вывучаюцца. Дастатковая паўтаральнасць, варыятыўнасць даюць магчымасць прымяніць метад матэматычнай апрацоўкі вынікаў, будаваць табліцы, графікі.

Часам настаўнікі спяшаюцца прад'явіць работу, не думаючы пра тое, ці закончаны эксперымент яны прадстаўляюць. Часта на алімпіядзе выступаюць вучні, ледзь знаёмыя з методыкай правядзення эсперыменту. Слухаеш выразы: "Мы капалі...", "Мы толькі драбнілі прадукты на мясарубцы і выціскалі сок для вызначэння нітратаў...". У сваёй практычнай рабоце мне давялося сутыкнуцца з такімі гора-даследнікамі ў адной са школ Мінскай вобласці. Восенню, падчас збору ўраджаю бульбы з доследных дзялянак, юннаты мне паведамілі пра вынікі і атрыманы ўраджай, параўналі вынікі кантрольных і доследных дзялянак тут жа на полі, якое было не ўбраным, на маіх вачах. Канешне, час быў не той, тады ўсе рапартавалі. Мінула 15 гадоў, а я думаю пра гэта. Напэўна, настаўніца пайшла на пенсію, але баюся, каб яе вопыт не пераймалі іншыя.

У заключэнні даследавання афармляюцца вынікі работы, якія ўключаюць 5 асноўных частак: уводзіны, матэрыял і методыка даследавання, вынікі работы і іх абмеркаванне, высновы і спіс выкарыстанай літаратуры. І толькі завершанае даследаванне можа прэтэндаваць на конкурс. Творчасць — гэта доўгія гады працы вучня, вучонага, настаўніка па дасягненні мэты, а не лёгкі шлях у ВНУ. Сярод настаўнікаў, якія падаюць навуковыя работы, ёсць і такія, якія абмяжоўваюцца толькі літаратурным аглядам, нават без спасылкі на аўтара. Сорамна, але ёсць і "інтэрнетаўскія даклады". Мы ўжо слухалі такія даклады аб крышталях, а вучань не мог напісаць элементарнае ўраўненне хімічнай рэакцыі ўзаемадзеяння аксіду азоту з вадой ці формулу бікарбанату натрыю. Яшчэ адзін шлях дасягнення мэты — "мучыць" членаў журы на працягу 3 — 5 гадоў. Канкурсант ходзіць ад секцыі да секцыі, ад больш строгіх членаў журы да менш строгіх, шукае, дзе знайсці выхад. Міжвольна прыгадваю выпадак, калі ў студэнта з вельмі нізкім узроўнем ведаў і развіцця я спыталася: "А як ты паступіў?". І ён мне з гордасцю адказаў: "А ў мяне медаль!" І дзе толькі даюць такія медалі?

Алімпіяда навуковых работ — гэта сёння тое месца, дзе раздаюць уваходны білет у вышэйшую навучальную ўстанову. Традыцыйна складваецца так, што прызавыя месцы займаюць вучні 11 класаў.

Было б правільна, каб ільготамі пры паступленні ў ВНУ карысталіся толькі пераможцы рэспубліканскіх алімпіяд. Варта стварыць таксама палажэнне аб конкурсе навукова-практычных работ, якое ўтрымлівала б крытэрыі выбару тэматыкі даследаванняў, ацэнкі вынікаў, ільготы для пераможцаў і інш.

Вучні 7-8 класаў, напрыклад, могуць удзельнічаць у алімпіядзе па намінацыі "Назіранне", вучні 9-10 — па намінацыі "Эксперымент", 11 класаў — у намінацыі "Лепшая навукова-практычная работа". Магчыма, конкурс ад гэтага выйграе, і вучні сярэдняга звяна будуць адчуваць сябе больш упэўнена.

І яшчэ некалькі слоў пра выбар тэм. У кожнай узроставай групе ўдзельнікаў алімпіяды свае задачы, аднак, здараецца, што некаторыя рэфератыўныя работы носяць занадта навуковы характар. Напрыклад, вучаніца 9 класа заявіла тэму "Камбінаванае ўздзеянне фактараў навакольнага асяроддзя на біялагічныя сістэмы". Навуковае кіраўніцтва ўзяў на сябе настаўнік школы. Потым высветлілася, што гэтая праца была падрыхтавана ў сааўтарстве з супрацоўніцай Сахараўскага каледжа.

Не хацелася б заканчваць нашу размову на такой песімістычнай ноце. Як бы там ні было, усё ж прыемна бачыць, як таленавітыя, цікаўныя, мэтанакіраваныя сямі-васьмікласнікі адчуваюць сябе "маленькімі вучонымі", прагнуць пазнаць навакольны свет, хочуць зрабіць яго больш дасканалым. Дапамагайце ім, вядзіце іх па шляху пазнання, гэта ж наш патэнцыял, наша нацыянальнае багацце.

**Людміла КУЛЬМЯНЁВА,**
**член журы конкурсу, дацэнт БДПУ імя М.Танка, выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь.**

